# Голас Радзімы

№ 11 (2153)
15 сакавіка 1990 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап





**У галоўным кнігасховішчы Беларусі—больш за сем мільёнаў адзінак захоўвання. Гэта каштоўны скарб нацыі, бясцэнныя помнікі гісторыі і культуры народа. Але трывогу выклікае стан нашай нацыянальнай бібліятэкі, нездавальняючыя ўмовы захоўвання кніг, якасць абслугоўвання чытачоў. З інтэрв'ю, змешчанага на 6-й старонцы, вы даведаецеся пра шматлікія праблемы бібліятэчнай справы ў БССР, пра іх узаемасувязь з агульным станам культуры і эканомікі грамадства.**

**НА ЗДЫМКАХ: галоўны будынак Дзяржаўнай бібліятэкі БССР імя У. І. Леніна; макет новага будынка бібліятэкі; вось у такім выглядзе захоўваюцца кнігі.**

**Фота С. КРЫЦКАГА.**






ВЫБАРЫ НАРОДНЫХ ДЭПУТАТАЎ

## ПЕРШЫЯ ВЫНІКІ

Падведзены вынікі выбараў народных дэпутатаў Беларускай ССР, якія адбыліся 4 сакавіка. Цэнтральная выбарчая камісія паведаміла, што ў галасаванні прынялі ўдзел 87 працэнтаў выбаршчыкаў. У Мінску—75,3 працэнта, у Брэсцкай вобласці — 90,5 працэнта, у Віцебскай вобласці — 88,4 працэнта, у Гомельскай вобласці — 87,9 працэнта, у Гродзенскай вобласці — 89,7 працэнта, у Мінскай вобласці — 92,6 працэнта, у Магілёўскай вобласці — 85,2 працэнта выбаршчыкаў.

Для правядзення выбараў народных дэпутатаў Беларускай ССР было ўтворана 310 тэрытарыяльных выбарчых акруг. У іх балаціравалася 1 427 кандыдатаў. Пры гэтым у выбарчыя бюлетэні былі ўключаны па аднаму кандыдату ў 20 акругах. Чацвёртага сакавіка народныя дэпутаты Беларускай ССР выбраны ў 98 акругах. У 194 акругах, у якіх балаціраваліся больш двух кандыдатаў і ні адзін з іх не быў выбраны, у адпаведнасці з артыкулам 56 Закона аб выбарах народных дэпутатаў Беларускай ССР не пазней чым у двухтыднёвы тэрмін будзе праведзена паўторнае галасаванне.

У 18 выбарчых акругах, дзе балаціраваліся па 1—2 кандыдаты ў дэпутаты, кандыдаты не атрымалі неабходнай колькасці галасоў выбаршчыкаў і і не былі выбраны дэпутатамі. У гэтых акругах 22 красавіка 1990 года будуць праведзены паўторныя выбары.

Цэнтральная камісія па выбарах народных дэпутатаў Беларускай ССР на падставе артыкула 53 Закона аб выбарах зарэгістравала ўсіх народных дэпутатаў Беларускай ССР, выбраных ад выбарчых акруг і грамадскіх арганізацый.

Усяго выбрана 148 народных дэпутатаў Беларускай ССР з 360. Трэба будзе выбраць яшчэ 212 дэпутатаў ад выбарчых акруг.

У ліку выбраных дэпутатаў восем жанчын, два рабочыя, адзінаццаць калгаснікаў. Сярод дэпутатаў 139 членаў КПСС. У вышэйшы орган дзяржаўнай улады БССР выбраны грамадзяне 5 нацыянальнасцей, якія пражываюць у Беларусі.

Сярод атрымаўшых перамогу — першы сакратар ЦК Кампартыі Беларусі Я. Сакалоў, Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР М. Дземянцей, Старшыня Савета Міністраў рэспублікі М. Кавалёў, выкладчыкі Белдзяржуніверсітэта Г. Грушавой і С. Шушкевіч, дацэнт інстытута народнай гаспадаркі В. Ганчар, рэдактар штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва» А. Вярцінскі, супрацоўнік Акадэміі навук БССР, старшыня сойму БНФ З. Пазняк.

МІЛАСЭРНАСЦЬ



**Выстаўка інваліднай тэхнікі вытворчасці СССР, Венгрыі і ФРГ праходзіць у Мінску. Асноўная мэта выстаўкі — прыцягнуць увагу прамысловасці да патрэб інвалідаў і наладзіць у рэспубліцы выпуск неабходнай тэхнікі. Першыя крокі ў гэтым напрамку ўжо робяцца. Сёлета плануецца выпусціць тысячу калясак і перадаць іх Міністэрству сацыяльнага забеспячэння рэспублікі. А колькі ж іх патрэбна!..**

**НА ЗДЫМКУ: на выстаўцы з наведвальнікамі гутарыць загадчык канструктарска-тэхналагічнага аддзела цэнтра «МАТЭНА» Мікалай ПАХОМАЎ ( у цэнтры).**

САЦЫЯЛЬНАЯ СФЕРА

## ЗДАРОЎЕ НЕ КУПІШ?

Беларускі аўтамабільны завод стаў спонсарам... медыкаў. 50 тысяч інвалютных рублёў, зробленых на зарубежных кантрактах, перададзена Беларускаму навукова-даследчаму інстытуту анкалогіі і медыцынскай радыялогіі на закупку імпартнага абсталявання. Гэта ўжо другі ўклад завода — такая ж сума была выдзелена інстытуту ў 1988 годзе. Прычым, савет працоўнага калектыву пастанавіў пералічыць на гэту мэту валюту толькі першай катэгорыі.

Стратнымі тут сябе не лічаць: інстытут таксама ўзяў на сябе пэўныя абавязкі — кансультаваць і аказваць неабходную медыцынскую дапамогу аўтазаводцам па прамому накіраванню іх медсанчасці.

— Экалагічная абстаноўка ў Беларусі пасля чарнобыльскай аварыі складваецца крайне неспрыяльная, — каменціруе дагавор дырэктар БелАЗа Дзмітрый Сыракваш. — Цяпер наша будучыня ў многім залежыць ад нашай медыцыны. У яе ў першую чаргу павінны ўкладвацца сродкі, яе, а не толькі эканоміку трэба тэрмінова выводзіць на сусветны ўзровень. Калі ўрад не спяшаецца, то мы чакаць на хочам і не можам. Таму і вырашылі не ісці шляхам прадпрыемстваў, якія закупляюць за валюту «Таёты» і «Мерседэсы», а распарадзіцца грашамі з карысцю для ўсіх. Бо добрае абсталяванне — гэта не толькі эфектыўнае лячэнне, але і своечасовая прафілактыка, дыягностыка на ранніх стадыях захворванняў, кваліфікаваныя навуковыя даследаванні, а ў канчатковым выніку — выпрацоўка канцэпцыі, па якой рэспубліцы жыць далей.

Здароўе сёння каштуе нятанна, але эканоміць на ім нельга. Гэта прынцыповы пункт гледжання БелАЗа. Месяц назад пачаў работу заводскі фізкультурна-аздараўленчы комплекс, з першым у Жодзіне басейнам. Праектуецца і новы аб'ект — крыты каток. Іх, дарэчы, маюць пакуль нават не ўсе абласныя цэнтры. БелАЗ працягвае будаўніцтва пансіянатаў на Чорным і Азоўскім морах, дзе штогод змогуць адпачыць, набрацца сіл сотні завадчан. Аўтамабілебудаўнікі лічаць, што робяць самы выгадны ўклад — у чалавека.

АБЯЦАННІ МІНІСТРА

## ЦІ ЗАПОЎНЯЦЦА ПРЫЛАЎКІ

Міністр гандлю БССР М. Петрушкевіч у інтэрв'ю газеце «Звязда» запэўніў пакупнікоў, што становішча з таварамі паступова будзе паляпшацца. Гэта датычыць як харчовых, так і прамысловых тавараў. Аптымізм міністра грунтуецца на тым, што ў 1990 годзе рыначныя фонды рэспублікі значна павялічваюцца. Тавараабарот узрасце да 16 мільярдаў рублёў, што на паўтара мільярда больш, чым у мінулыя гады. На 105,4 працэнта павялічыліся фонды на харчовыя тавары і на 117,5 працэнта—на тавары прамысловасці.

Так, сёлета прадугледжваецца павялічыць продаж мясных вырабаў на 41 тысячу тон, малочных прадуктаў на 295 тысяч, кандытарскіх вырабаў на 9,5 тысячы, цвёрдых сыроў — на 2,8 тысячы тон.

У параўнанні з мінулым годам продаж трыкатажу ўзрасце на 108 мільёнаў рублёў, жаночых калготак — на 7,4 мільёна, скуранога абутку — на 41 мільён. Павышаны попыт сёння на складаную бытавую тэхніку. Тут таксама становішча значна палепшыцца. Пральных машын плануецца прадаць на 110 тысяч больш, чым у мінулым годзе, тэлевізараў — на 123 тысячы, халадзільнікаў і маразільнікаў — на 32 тысячы штук.

На пытанне, чаму стала магчымым так[illegible]велічэнне рыначных фондаў, М. Петрушкевіч адказаў:

— Па-першае, у рэспубліцы вытворчасць усіх тавараў вырасла ў мінулым годзе на 12 працэнтаў. Па-другое, на 122 мільёны рублёў ска[illegible]ўся вываз тавараў за межы рэспублікі, а з[illegible] па цэнтралізаваных пастаўках павялічыўся на 152 мільёны. Па-трэцяе, мы атрымліваем на паўмільярда рублёў тавараў за кошт звышпланавай вытворчасці. Па-чацвёртае, у сувязі з пераходам рэспублікі на новыя ўмовы гаспадарання 50 працэнтаў абсалютнага прыросту вытворчасці застаецца ў БССР. А з наступнага года, як вырашана на сесіі Вярхоўнага Савета, увесь прырост вытворчасці застанецца ў рэспубліцы, што дазволіць значна стабілізаваць становішча на спажывецкім рынку.

Сёлета ў канцы першага квартала або ў другім поўнасцю вырашым праблему з мылам і мыйнымі сродкамі, што дасць магчымасць адмовіцца ад іх размеркавання па талонах. Што датычыць іншых тавараў, то тут, нягледзячы на значны прырост фондаў, поўнасцю напружанне зняць не ўдасца.

СКАРЫНІНСКІ АГЛЯД

## КОНКУРС БЕЗ ПЕРАМОЖЦАЎ

Завяршыўся другі тур рэспубліканскага конкурсу на лепшы праект помніка Францішку Скарыне ў Мінску. З 12 прадстаўленых работ адзначаны 4 лепшыя, але «дабро» на ўвасабленне не атрымала ніводная. Чаму? На гэта пытанне адказвае народны мастак СССР, старшыня праўлення Мінскага абласнога аддзялення Беларускага фонду культуры, старшыня журы конкурсу М. Савіцкі:

— Архітэктары прапанавалі два месцы для ўзвядзення помніка: каля ўваходу ў галоўны корпус Акадэміі навук БССР і пляцоўку, якая прымыкае да акадэмічнай бібліятэкі. Абодва варыянты аказаліся непрымальнымі. Па-першае, бронзу помніка, узведзенага каля галоўнай магістралі сталіцы, раз'ядалі б выхлапныя газы, а паток машын, як вядома, з года ў год расце. Па-другое, высокія калоны будынка акадэміі дыктуюць вялізныя памеры фігуры. Чалавек, які апынецца ля яе, убачыць, прабачце, толькі ногі. Хопіць нам будаваць аграмадзіны, падобныя на помнік Якубу Коласу, Максіму Багдановічу, зробленыя ў спешцы, а таму недастойныя памяці вялікіх пісьменнікаў. У спешцы быў арганізаваны і гэты конкурс. Але ж помнікі будуюцца на стагоддзі.

З пачатку сакавіка творчая спаборнасць аднаўляецца. Няхай са спазненнем, але дастойным паўстане перад нашчадкамі вобраз гордасці беларускай нацыі — Францішка Скарыны.

*На праходзячай сесіі Вярхоўнага Савета ледзь-ледзь, з цяжкасцю беларускім дэпутатам удалося ўставіць у лік першачарговых пытанне аб дзяржаўнай праграме ліквідацыі вынікаў чарнобыльскай ядзернай катастрофы. Хоць на 21-е месца, дадаткова! Дарэчы спытаць, як павінен рэагаваць на гэта народ Беларусі, для якога гэта пытанне не 21-е, а першае з найпершых? Таму што гэта пытанне аб жыцці і смерці народа. Таму што ў нашай вялікай краіне, дзе цяжкіх бедстваў нямала, больш жахлівага бедства няма.*

*Страшна падумаць, але абыякавасць да лёсу дзесяцімільённага народа настолькі вялікая, што міжволі прыходзіш у адчай: няўжо планета вырашыла паназіраць за вынікам Чарнобыля ў Беларусі як за жахлівым навуковым эксперыментам: выжыве ці перамрэ гэтае мірнае славянскае племя?.. Радыяцыя рухаецца па беларускай зямлі, як чума, усё далей і далей, патрэбны мільярды рублёў на адсяленне соцень тысяч жыхароў, на лячэнне ўжо хворых дзяцей і дарослых. Гэтыя мільярды павінны неадкладна выплаціць тыя, хто прынёс нечуванае няшчасце і цяжкі ўрон народу Беларусі, хто азмрочыў яму ўсе думкі аб сваёй будучыні.*

*(З артыкула Ніла Гілевіча ў газеце «Праўда»).*

ПАВЕВЫ ПЕРАБУДОВЫ

## ШТО РОБІЦЬ КДБ

**Першы намеснік старшыні Камітэта дзяржаўнай бяспекі БССР генерал-маёр Эдуард ШЫРКОЎСКІ расказаў карэспандэнту БЕЛТА.**

Органы дзяржбяспекі адмовіліся ад вайны з іншадумствам, дысідэнцтвам, з антысавецкай агітацыяй і прапагандай, за якімі часта стаялі толькі перакананні і ідэалагічныя прыхільнікі людзей, а перайшлі на нязмерна больш высокі ўзровень: ім даручана абарона савецкага канстытуцыйнага ладу. Карацей кажучы, праследавацца будуць не крытыка ў адрас Савецкай улады і яе інстытутаў, а толькі прамыя заклікі і дзеянні, накіраваныя на насільнае звяржэнне нашага дзяржаўнага і грамадска-палітычнага ладу. Такім чынам, дзейнасць і кампетэнцыя органаў прыкметна звузіліся і адначасова ўзняліся на прынцыпова новую ступень.

...Перамены ў нашай краіне, пацяпленне міжнароднага клімату імгненна адбіліся на развіцці ўзаемных кантактаў. Да таго ж прыняты многія нарматыўныя акты, якія значна спрасцілі працэдуру афармлення выездаў савецкіх грамадзян за мяжу, а іншаземцаў — у нашу краіну. У Беларусі нарадзілася і хутка набыла папулярнасць новая форма міжнароднага абмену — прыгранічны турызм. Словам, кантакты нязмерна расшырыліся, а разам з імі ўзрасла і нагрузка на пагранічныя службы. Назаву некалькі лічбаў. У мінулым годзе ў параўнанні з папярэднім колькасць людзей, якія перасеклі нашу граніцу, павялічылася больш чым на трэць і склала амаль 6 мільёнаў чалавек, у тым ліку 2,5 мільёна — іншаземцаў. Савецкія грамадзяне выязджалі ў 84 краіны, госці да нас завіталі са 146 дзяржаў.

На жаль, не абышлося без эксцэсаў. Затрыманы 26 парушальнікаў граніцы, у асноўным гэта асобы, якім закрыты ўезд у СССР. Выяўлена 109 чалавек з чужымі і падробленымі дакументамі. Канфіскавана 202 адзінкі агнястрэльнай зброі, каля 20 тысяч боепрыпасаў рознага прызначэння. Упершыню ў мінулым годзе мы сутыкнуліся са спробамі паднесці савецкім людзям новага віду падарункі — 30 балонаў з нервовапаралітычным і слёзатачывым газам. У студзені завітала яшчэ група гасцей з такімі ж прэзентамі.

І яшчэ адна негатыўная прыкмета ўзрослай інтэнсіўнасці на трасе ўезд — выезд: рэзкі скачок колькасці кантрабандных спраў. У мінулым годзе іх заведзена звыш 10 тысяч, што ў паўтара раза больш ранейшага. Канфіскавана тавараў і каштоўнасцей на 17 мільёнаў рублёў.

МАЙСТАР



**З прыгожай прычоскай у добрым настроі пакідаюць кліенты цырульніцу Алену Тарасаву з Гомеля. Вядома, знайсці падыход да кожнага наведвальніка — справа далёка не простая. Але Алена любіць сваю прафесію, настойліва ўдасканальваецца ў ёй. Яна неаднаразовая ўдзельніца і прызёр розных конкурсаў майстэрства.**

**НА ЗДЫМКУ: майстар сваёй справы Алена ТАРАСАВА.**

ШТО ЗНАЧЫЦЬ самавызначэнне савецкіх народаў? Ці зводзіцца яно ў рэшце рэшт толькі да магчымасці аддзялення той ці іншай з саюзных рэспублік ад СССР? Ды і ці разумна парушаць і разрываць даўнія і цесныя ўзаемасувязі, якія склаліся паміж імі?

Увесь савецкі і сусветны вопыт сведчыць: самавызначэнне нельга разглядаць толькі як нейкі аднаразовы акт, што рэалізуе права на выхад з федэрацыі. Гэта доўгі і шматпланавы працэс, які ўключае сцвярджэнне нацыянальнай годнасці, умацаванне палітычнай і эканамічнай самастойнасці, развіццё мовы і культуры. Так ставіцца пытанне ў платформе КПСС «Нацыянальная палітыка партыі ў сучасных умовах», прынятай на Пленуме ЦК КПСС восенню 1989 года.

павінна больш эфектыўна вырашаць любыя свае праблемы ва ўмовах большай самастойнасці ў рамках савецкай федэрацыі.

Савецкая федэрацыя ахарактарызавана ў платформе КПСС формулай: без моцнага Саюза няма моцных рэспублік, без моцных рэспублік няма моцнага Саюза. Каб лепш ажыццявіць гэтую ідэю на практыцы, трэба будзе больш канкрэтна вызначыць кампетэнцыю і ўзаемныя абавязацельствы Саюза ССР і яго складаемых — 15 суверэнных дзяржаў.

Паўнамоцтвы Саюза ССР і правы саюзнай рэспублікі не антаганістычныя адзін аднаму, падкрэслівае Мікалай Дзямянцей. Канстытуцыямі СССР і Беларускай ССР даўно ўжо замацаваны саюзны і рэспубліканскі ўзроўні

## СУВЕРЭНІТЭТ САЮЗНАЙ РЭСПУБЛІКІ: НОВЫЯ ПЕРСПЕКТЫВЫ

# НЕ ПРОСТА СКЛАДАННЕ, А ПАМНАЖЭННЕ СІЛ

У дакуменце канстатуецца: саюзныя рэспублікі — суверэнныя сацыялістычныя дзяржавы — раўнапраўныя члены савецкай федэрацыі. Перабудова, якая пачалася ў краіне, расшырае іх самастойнасць. У прыватнасці, эканамічны змест самавызначэння адлюстроўваецца ў пераходзе іх на гасразлік і самафінансаванне.

Як гэта выглядае канкрэтна на прыкладзе адной з пятнаццаці саюзных рэспублік — Беларусі, праілюстраваў Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР **Мікалай ДЗЕМЯНЦЕЙ**.

Бадай, ніколі раней эканамічная і грамадска-палітычная сітуацыя не абмяркоўвалася так бурна і падчас рэзка, як сёння, калі чаканні хуткіх і прыкметных зменяў да лепшага, абуджаныя перабудовай, апраўдаліся далёка не ва ўсім. У дыскусіях аб пераадоленні крызісных з'яў сутыкнуліся самыя розныя пункты гледжання.

З аднаго боку, чуюцца заклікі не драматызаваць становішча: яго цвярозы аналіз усяляе не толькі трывогу, але і надзею. Беларусь—адна з найбольш «удачных» рэспублік у сэнсе гаспадарчага развіцця. Яна наперадзе па цэлым шэрагу важных паказчыкаў, няхай то будзе рост нацыянальнага даходу ці павелічэнне прадукцыйнасці працы ў 70-80-х гадах. Інфляцыя, што ахапіла СССР, у Беларусі не так адчувальная: дадатковая эмісія грошай у апошнія гады практычна не дапускалася. І гэтак далей.

І яшчэ: цяжкасці павялічыла аварыя 1986 года на Чарнобыльскай АЭС, размешчанай на тэрыторыі Украіны. Радыеактыўныя рэчывы, што вырваліся тады з рэактара, былі занесены адтуль вятрамі ў суседнюю Беларусь, дзе забрудзілі вялікія плошчы яе зямель. У выніку яна страціла для нармальнага выкарыстання каля 1/5 сваіх угоддзяў.

Нельга не агаварыцца: было зроблена ўсё магчымае, каб звесці да мінімуму ўрон ад катастрофы. Беларусі, як і Украіне, натуральна, дапамагала ўся краіна, кінуўшы ім на выручку такія сілы і сродкі, якіх не мела ні адна з гэтых рэспублік. У самыя кароткія тэрміны былі выкананы вялікія і складаныя работы на самой АЭС і ва ўсіх зонах заражэння: абследаванне і лячэнне пацярпеўшых, абясшкоджанне і захаванне рэактара, дэзактывацыя глебы і пабудоў, перасяленне людзей, забеспячэнне эвакуіраваных на новым месцы жыллём і да т. п.

Экстраннымі мерамі 1986 года справа не абмежавалася. Далейшае аздараўленне становішча пасля чарнобыльскага бедства прадугледжвае спецыяльная праграма, падрыхтаваная нядаўна ў Беларусі і прадстаўленая ў агульнасаюзныя органы для ўключэння ў дзяржаўныя планы СССР на 90-я гады з выдзяленнем усіх патрэбных укладанняў з агульнасаюзных рэсурсаў.

Гэты прыклад лішні раз нагадвае аб узаемазалежнасці рэспублік, аб важнасці зладжанага іх узаемадзеяння пад эгідай Саюза ССР. Але, вядома, пры ўсім тым кожная з іх можа і кампетэнцыі, якія павінны спалучацца несупярэчліва, гарманічна. Але гісторыя савецкага грамадства паказала: проста абвясціць прынцыпы рэспубліканскага суверэнітэту мала. Патрэбна для гэтага дзеездольнае заканадаўства складваецца, па сутнасці, толькі сёння, калі ў СССР разгарнуліся працэсы перабудовы, усебаковай дэмакратызацыі.

Канстытуцыі СССР і саюзных рэспублік падвергліся перагляду і ўдасканаленню. Змяненняў і дапаўненняў ужо нямала, але ў бліжэйшай будучыні да іх дабавіцца [illegible]рагодна, цэлы шэраг новых. Пат[рабу]ецца распрацоўка канкрэтных прававых норм, каб кожны рэгіён меў усе гарантыі самастойнасці ў вырашэнні сваіх праблем. Гэта не азначае, аднак, што ён павінен рана ці позна [са]маізалявацца ад звыклага акружэн[ня. Н]аадварот, трэба захоўваць і развіва[ць], у нечым радыкальна перабудоўваць, але зусім не разбураць гарызантальныя ўнутрысаюзныя ўзаемасувязі — сацыяльна-эканамічныя, культурныя і гэтак далей.

Наша канцэпцыя суверэнітэту не прадугледжвае аддзялення ад СССР, гаворыць Мікалай Дземянцей. Гэтую канцэпцыю ў большасці сваёй падтрымлівае беларуская грамадскасць.

Мы ясна бачым арыенціры руху наперад курсам перабудовы, працягвае мой субяседнік. Сярод іх — актыўнае прыцягненне грамадзян да самакіравання ў розных сферах і на ўсіх узроўнях знізу даверху; дакладнае размежаванне функцый паміж партыйнымі і дзяржаўнымі органамі; забеспячэнне паўнаўладдзя Саветаў; фарміраванне прававой дзяржавы; умацаванне правапарадку...

З 1990 года Беларусь перайшла на новыя ўмовы гаспадарання, у аснове якіх — рэгіянальнае самакіраванне і самафінансаванне. Гэта дазволіць ёй лепш распараджацца сваімі сіламі і сродкамі. Прадпрыемствы набываюць нябачаную раней самастойнасць ва ўсім — у наладжванні забеспячэння сыравінай, у вырабе і збыце прадукцыі, у планаванні ўсёй сваёй дзейнасці. Будучы падведамаснымі таму ці іншаму мясцоваму Савету, яны павінны адлічваць яму нейкую долю прыбытку, плату за працоўныя і прыродныя рэсурсы. А чым мацнейшая матэрыяльная база, на якую абапіраецца гэты орган улады, тым больш у яго магчымасцей уплываць на становішча спраў у маштабах сваёй тэрыторыі.

Іншыя прыклады зрухаў на шляху да рэальнага суверэнітэту БССР — ужо прынятыя папраўкі да яе Канстытуцыі, якія рэгламентуюць парадак выбараў у мясцовыя Саветы; прыняты статус дзяржаўнасці беларускай мовы; расшырэнне прамых сувязей з замежнымі фірмамі...

Дзякуючы перабудове савецкай федэрацыі, Беларусь і іншыя рэспублікі ўступаюць у новы этап развіцця. З ростам іх самастойнасці і паглыбленнем узаемадзеяння паміж імі не можа не праявіцца феномен інтэграцыі — не проста складанне, а памнажэнне сіл.

**Вячаслаў ХАДАСОЎСКІ.**

## ЗАКЛЮЧАНА ПАГАДНЕННЕ НА СУПРАЦОЎНІЦТВА

# ДЗЕЛАВЫ МОСТ МАГІЛЁЎ—ГАЛАНДЫЯ

З першага студзеня 1990 года ў Магілёве пачало дзейнічаць сумеснае прадпрыемства «Усходне-Заходняя карпарацыя па развіццю Магілёўскай вобласці». Вясной фірма разлічвае адкрыць свой філіял у Дзюсельдорфе (ФРГ). Рахункі карпарацыі будуць адкрыты ў шэрагу банкаў Заходняй Еўропы.

Заключэнне такога пагаднення ў лістападзе 1989 года ў Магілёве паміж прадстаўнікамі савецкіх і заходніх дзелавых колаў не мае аналагаў у СССР. Першыя партнёры хочуць прымяніць у рамках цэлага рэгіёна новыя, больш інтэграваныя формы супрацоўніцтва Усходу і Захаду.

Дзелавая актыўнасць сумеснай карпарацыі будзе накіравана на вырашэнне шырокага кола праблем. Сярод іх — эканамічны аналіз дзейнасці прадпрыемстваў, кансультацыі і метадычная дапамога ў пытаннях інвестыцыйнай стратэгіі і палітыкі ў вобласці, садзейнічанне фінансаванню перспектыўных праектаў. Важны напрамак у дзейнасці — маркетынг для арганізацыі выпуску канкурэнтаздольнай прадукцыі, аказанне дапамогі ў наладжванні гандлёвага супрацоўніцтва, у тым ліку і на бартэрнай аснове, кансультацыі па эканоміі валютных сродкаў пры размяшчэнні заказаў у збыце прадукцыі за мяжой. Карпарацыя прапаноўвае свае паслугі ў пасрэдніцтве па стварэнню новых сумесных прадпрыемстваў, у паглыбленні вытворчай кааперацыі з замежнымі партнёрамі, у арганізацыі абменаў у галіне інфармацыі, рэкламы, удзелу ў міжнародных выстаўках.

Прамыя адносіны да ства[рэння] новай фірмы мае пастаянны [пра]дстаўнік СССР у ЮНЕСКА В. Ламейка. Ураджэнец Магілёўскай вобласці, ён садзейнічаў арганізацыі прамых перагавораў паміж савецкім і нідэрландскім бакамі.

Удзельнікамі сумеснай к[арпар]ацыі сталі з савецкага боку — в[ытв]орчае аб'яднанне па выпуску шаўковых тканін, камбінат «Хімвалакно», аб'яднанне мяса-малочнай прамысловасці (Магілёў), кансультацыйны цэнтр «Оптым» (Масква), з галандскага боку — фірма «Люрвінк і кампанія Н. В.», якая запрасіла да ўдзелу ў справе амерыканскія, заходнееўрапейскія і японскія банкі. Афіцыйным кансультантам у карпарацыі стаў банк «Лазар Фрэр і кампанія» (Парыж).

Устаўны фонд сумеснага прадпрыемства, што складае адзін мільён долараў, утвораны савецкім і заходнім бакамі на парытэтнай аснове. Прыбытак будзе размяркоўвацца пароўну.

Прэзідэнт праўлення «Усходне-Заходняй карпарацыі па развіццю Магілёўскай вобласці» — галандскі мільянер Ф. Люрвінк. Добра вядомы на Захадзе як чалавек, які заўсёды паспяхова займаўся «рэанімацыяй» прадпрыемстваў у самых розных галінах — ад тэкстыльнай да электроннай прамысловасці, ён разлічвае на поспех і ў новай справе.

— Мы пачалі унікальную справу, аб якой не маглі дагаварыцца ні ў Маскве, ні ў іншых месцах, — падкрэсліў на прэс-канферэнцыі ў Магілёве Люрвінк. — У Магілёўскай вобласці створаны вялікі прамысловы патэнцыял, які трэба шырэй скарыстоўваць на сусветным рынку. Але для гэтага савецкім прадпрымальнікам трэба больш дакладна бачыць свае перспектывы, ім патрэбна дапамога ў вывучэнні заходняга рынку.

Віцэ-прэзідэнтам праўлення карпарацыі стаў першы сакратар Магілёўскага абкома партыі В. Ляонаў, дзелавыя якасці якога высока ацанілі заходнія партнёры. Ляонаў лічыць, што перабудова, у тым ліку і ў эканамічных адносінах з Захадам, павінна выяўляцца перш за ўсё ў канкрэтных справах, якой і з'явілася стварэнне гэтай сумеснай карпарацыі.

Генеральны дырэктар сумеснага прадпрыемства В. Сямёнаў. Кіраўнік буйнога аб'яднання па выпуску шаўковых тканін, старшыня савета дырэктараў прадпрыемстваў Магілёва, у дзелавых кантактах з Захадам ён не навічок. Прадукцыя яго аб'яднання карыстаецца ўстойлівым попытам на сусветным рынку не першы год. Аднак сёння ён заклапочаны больш, чым раней, і не без падстаў. Клопаты, звычайныя ў кожнай справе, абцяжарваюць тым, што пакуль не пераадолены бюракратычныя перашкоды на шляху нармальнага функцыяніравання карпарацыі з боку шэрагу савецкіх міністэрстваў і ведамстваў.

Аб ступені зацікаўленасці і давер'я дзелавых колаў Захаду да новай формы сведчыць, на думку В. Сямёнава, той факт, што ў склад праўлення карпарацыі ўвайшлі такія бізнесмены, як Д. Кендал, прэзідэнт сусветна вядомай кампаніі «Пепсіка», і Р. Макнамара. Сярод членаў праўлення з савецкага боку — намеснік Старшыні Савета Міністраў БССР В. Кебіч.

**Аляксандр ТАРПАЧОЎ.**



**Канкрэтны ўклад у вырашэнне праблем экалогіі ўносяць творчыя калектывы Інстытута механікі металапалімерных сістэм АН БССР. Шырока прымяняюцца ў розных галінах распрацаваныя імі палімерныя валакністыя матэрыялы. Напрыклад, трубчатыя аэрыруючыя элементы з іх працуюць у сістэмах біялагічнай ачысткі сцёкавых вод цэлюлозна-папяровага камбіната на беразе Ладажскага возера, дыскавыя — у гарадскіх ачысных збудаваннях Мінска і Віцебска.**

**Цяпер у цэхах доследнай вытворчасці канструктарскага бюро інстытута завяршаецца апрабаванне створанага тут новага пнеўмаэкструзіённага абсталявання для вытворчасці трубчатых, дыскавых і плоскіх аэрыруючых элементаў.**

**НА ЗДЫМКУ: апрабаванне новага абсталявання вядуць загадчык аддзела валакністых палімерных матэрыялаў і вырабаў з іх Аляксандр СІКАНЕВІЧ (злева) і слесар-выпрабавальнік Віктар ШКУДРОЎ.**

**Фота І. ЮДАША.**

# «ГЕМА» СТВОРАНА Ў МІНСКУ

Беларускія вучоныя адныімі з першых распрацавалі прыборы для вывучэння зямной паверхні з космасу з дапамогай спектральных металаў. І вось здзейснены яшчэ адзін крок наперад па гэтым шляху: нядаўна на арбітальны касмічны комплекс «Мір» на доследным модулі «Квант-2» дастаўлена інтэрактыўная мікрапрацэсарная спектраполерыметрычная сістэма «Гема-2 відэа». Гэта аб ёй у час сеанса сувязі з Зямлёй касманаўт Аляксандр Сераброў сказаў з арбіты: «У нас ёсць на борце новы прыбор для атрымання спектральных здымкаў зямной паверхні. Хутка мы павінны яго запусціць. Інфармацыю ад яго чакаюць спецыялісты сельскай і лясной гаспадаркі, акеанолагі, геолагі, рыбакі. Яе выкарыстанне павінна прынесці гэтым галінам вялікую карысць».

Неабходная навуцы і практыцы навінка была створана ў Навукова-даследчым інстытуце прыкладных фізічных праблем і спецыяльным канструктарска-тэхналагічным бюро з вопытнай вытворчасцю Беларускага дзяржаўнага універсітэта. У гэтай рабоце прымалі таксама ўдзел спецыялісты навукова-вытворчага аб'яднання «Энергія».

— А ініцыятыва стварэння апаратуры «Гема» належыць касманаўтам Віталію Севасцьянаву і Аляксандру Сераброву,— тлумачыць дырэктар Навуковага цэнтра аэракасмічнай дыягностыкі прыродных рэсурсаў Зямлі Барыс Бяляеў. — Яны прапанавалі аб'яднаць у адзінай сістэме магчымасць адначасовай рэгістрацыі спектральнай і прасторавай інфармацыі з магчымасцю яе аналізу і апрацоўкі непасрэдна на борце арбітальнага комплексу. Гэта зерне, вобразна кажучы, трапіла на падрыхтаваную глебу, бо ў нас меўся задзел неабходных навуковых і тэхнічных рашэнняў. У выніку пад навуковым кіраўніцтвам акадэміка АН БССР, рэктара Беларускага дзяржаўнага універсітэта Леаніда Кісялеўскага была створана апаратура, якая дазваляе адначасова рэгістраваць пяць з шасці існуючых параметраў аптычнага поля. Гаворка ідзе аб спектральных, энергетычных, прасторавых, палярызацыйных і вуглавых характарыстыках.

Не адзін год спатрэбіўся беларускім вучоным, каб іх прыбор трапіў у космас. Адна мадыфікацыя змяняла другую, паступова паляпшалася яго аптычная частка, усё больш «інтэлектуальнай» станавілася электроніка. Аб тым, што апаратура знаходзіцца на самым перадавым у свеце ўзроўні, красамоўна сведчаць і вынікі міжнароднага эксперымента, што адбыўся мінулым летам у ЗША з удзелам амерыканскіх, савецкіх, французскіх, канадскіх, англійскіх вучоных. «Гема» паднімалася ў паветра на адным верталёце з амерыканскай сістэмай аналагічнага прызначэння, адначасова вяліся і назіранні за Зямлёй.

— «Гема» адрозніваецца тым, што здольная аўтаномна і ў рэальным маштабе часу апрацоўваць атрыманую інфармацыю, —працягвае Барыс Бяляеў.— Гэта значна павялічвае эфектыўнасць работы даследчыка. Нядаўна мы абмяняліся з амерыканцамі канчатковымі вынікамі эксперымента. Спадзяёмся, што ў 1991 годзе нам удасца правесці яшчэ адзін сумесны эксперымент, на гэты раз у Савецкім Саюзе.

Але на арбітальную станцыю «Мір» накіравана яшчэ больш дасканалая сістэма, якая амаль ці не да апошняга дня праходзіла напружаную праверку на зямлі. З яе дапамогай, напрыклад, праводзіліся даследаванні забруджанасці ', йскага мора нафтай, зіранні за выкідамі ў паветра буйнейшай у Мінску цеплаэлектрацэнтралі, вяліся аэрадаследаванні унікальнай сістэмы Нарачанскіх азёраў. Н це, з дапамогай «Ге даследавалася тэрыторыя Беларусі, на якой вядзецца здабыча калійнай солі, што дазволіла па-новаму ацаніць магчымыя экалагічныя вынікі.

— Экалагічны аспект у назіраннях за Зямлёй з космасу мае яўны прыярытэт. — завяршае размову Барыс Бяляеў.— Ён дазволіць пашырыць нашы веды аб тым, як пад уздзеяннем чалавека ідзе забруджванне паветра, рэк, мораў і акіянаў, як уздзейнічаюць прамысловыя выкіды на тэрыторыю вакол буйных гарадоў. З вывадам на арбіту «Гемы» упершыню з'явілася магчымасць аператыўна перадаваць аб гэтым інфармацыю з космасу на Зямлю, а адсюль накіроўваць касманаўтам нашы каррэктывы. Гэтая галіна даследаванняў будзе пашырацца і далей.

**Уладзімір БІБІКАЎ.**







**Аляксандр Занкевіч нарадзіўся задоўга да рэвалюцыі, жыў са сваім бацькам на хутары Альсееў Перавоз пад Вілейкай у Заходняй Беларусі. Сям'я Занкевічаў апрацоўвала каля паўгектара сваёй зямлі, якая і карміла, і апранала. Ішоў час. Аляксандр ажаніўся. Хутка ў маладой сям'і з'явіўся сын Леанід, а потым і дзве дачкі — Лілія і Тамара. Жыць бы, гадаваць дзяцей, працаваць на зямлі, але пачалася вайна... І пайшоў Аляксандр Міхайлавіч у Чырвоную Армію. Ды яшчэ ўзяў з сабой і семнаццацігадовага сына. Думалася: няхай будзе пад бацькоўскім наглядам... Адважна змагаліся Занкевічы з фашыстамі. У абодвух былі ўжо і ордэны, і медалі, Але не суджана было ім разам сустрэць Перамогу. У апошні дзень сакавіка 1945 года пры выкананні баявога задання загінуў Леанід.**

**У тыле не лягчэй было і яго жонцы Марыі. Пажарышчамі прайшла па роднай зямлі вайна. Вярнуўся воін дамоў, стаў адным з першых членаў новастворанага калгаса і не цураўся ў ім**

**кай работы ні ў паляводстве, ні ў жывёлагадоўлі.**

**...Цяпер Занкевічу — дзевяноста. Па выхадных збіраюцца ў яго на хутары дзе і ўнукі. А ў будні клопа пра ветэрана з яго бліз...мі падзяляюць работнікі мясцовых служб. Бываюць тут і медыкі, цікавяцца здароўем доўгажыхара. Сельсавет дапамог устанавіць у доме Аляксандра Міхайлавіча тэлефон. І хоць на хутары, але ўсё ж не ў баку ад людской увагі жыве стары чалавек Аляксандр Занкевіч.**

**НА ЗДЫМКАХ: здароўем доўгажыхара цікавіцца загадчыца Асіповіцкага фельчарска-акушэрскага пункта Валянціна ВАЛЫНЕЦ; тэлефон — сувязь з навакольным светам; Аляксандр ЗАНКЕВІЧ з хутара Альсееў Перавоз.**

**Фота Л. КЛІМАНСКАГА.**

## *ПІШУЦЬ ЗЕМЛЯКІ*

### АДНАЎЛЯЦЬ І ЗАХОЎВАЦЬ СВАЮ МОВУ

Дзякую ўсім работнікам за газету «Голас Радзімы». Я чытаю яе заўсёды ўважліва. Вядома, усё не запомніш, але ж самае галоўнае — праз газету падтрымліваем сувязь з Бацькаўшчынай. Як я ўжо раней пісала, вялікую карысць маю ад «Беларускай кухні». Многа чаго гатавала па вашых рэцэптах.

Так, наша беларуская мова павінна зноў пашырацца. Шкада, што я ўжо не надта добра пішу па-беларуску. Але цяпер усё больш і больш думаю пра гэта. Наша пакаленне старэе, і жывём мы на чужой старонцы, так што нам пазнавата вучыцца. Але нашай беларускай моладзі трэба старацца аднаўляць і захоўваць беларускую мову. У «Голасе Радзімы» вельмі прыкметная перабудова.

**Вера САЗАНОВІЧ.**

Бельгія.

## *АД СЭРЦА ДА СЭРЦА*

### ЖАДАЕМ ВЫЗДАРАЎЛЕННЯ ДАРАГІМ НАМ ЛЮДЗЯМ

Чытаючы сёння пісьмы замежных суайчыннікаў, звяртаеш увагу на, бадай што, асноўную іх тэму: чарнобыльская трагедыя. І бачыш, што наша ўстрывожанасць яе вынікамі і ўздзеяннем быццам па нервовых ніцях перадаецца і за мяжу.

Кажуць, што, калі няма другой рады, і час лечыць. У нашым выпадку ён — вораг. Бо трэба прызнаць, што вынікі нашага бедства, памножаныя на суб'ектыўныя і аб'ектыўныя прычыны прамаруджвання ў іх ліквідацыі, робяцца ўсё мацней адчувальнымі і з чарговым «цік-так» маятніка — усё больш злавеснымі.

У гэтую часіну кожны знак спачування, увагі і дабрачыннасці з боку землякоў за мяжой выклікае нашу сардэчную ўдзячнасць.

Ці можна, напрыклад, без цеплыні адносіцца да ўчынку вучняў школы рускай мовы пры Таварыстве грэка-савецкай дружбы ў г. Ларысе, што на зямлі старажытнай Элады. Разам з добрымі пажаданнямі, падпісанымі Аляксандрай Статматэлату, Кацяй Куверы, Нікам Папанікалау і іх настаўніцай Нінай Папагеоргіў даслалі яны Беларускаму таварыству «Радзіма» 337 аднаразовых шпрыцаў і 137 сістэм пералівання крыві.

А з Аўстрыі, з венскага таварыства «Родина» яго старшыня А. Кухар паведамляе: «Мы сабралі невялікую суму грошай колькасцю 14 300 аўстрыйскіх шылінгаў, якія просім выкарыстаць для аказання медыцынскай дапамогі беларускаму насельніцтву, пацярпеўшаму ад катастрофы на Чарнобыльскай АЭС. Мы разумеем, што гэта вельмі маленькая доля ў ліквідацыі велізарнага ўрону, які яшчэ доўгі час будзе адбівацца на ўсіх сферах жыцця. Але гэта — наш, суайчыннікаў з Аўстрыі, пасільны ўклад у агульную справу».

Аб міласэрнасці землякоў з Бельгіі і, у прыватнасці, Марыі Гарох з аддзялення ССГБ г. Шарлеруа мы ўжо пісалі. Тым не менш варта адзначыць, што яе дыялог з Бацькаўшчынай не толькі набывае працяг, але і знаходзіць новыя напрамкі ў сваім развіцці. Маецца на ўвазе тое, што па ініцыятыве бельгійскіх суайчыннікаў далучылася да высакароднай акцыі дапамогі беларускаму народу і грамадскасць краіны. Сутнасць гэтай з'явы тлумачаць радкі з пісьма самой Марыі Гарох. «З вашай газеты, — піша яна, — якую чытаем, цэнім і паважаем, мы даведаліся, што многія суайчыннікі адгукнуліся на ваш леташні зварот.

Аддзяленне Таварыства дружбы Бельгія—СССР, дзе я з мужам працую, ахвяравала 31 тысячу бельгійскіх франкаў на закупку аднаразовых шпрыцаў. Мы купілі іх 9 тысяч на фабрыцы, дзе працуюць інваліды ад нараджэння. Гэтым самым і для бельгійскіх няшчасных мы зрабілі добрую справу. Аэрафлот бярэ на сябе ўсе выдаткі па перасылцы, за што мы яму надта ўдзячныя. Высылаем і копію квітанцыі з неабходнымі данымі: колькасць, аб'ём і г. д. Гэта каб ведаць дакладна, ці ўсё атрымана. Жадаем вам хутчэй пазбавіцца ад нечаканага гора, а галоўнае — выздараўлення дарагім нам людзям».

**Кастусь ШАЛЯСТОВІЧ.**

*ЛИСТАЯ ПОДШИВКИ «РУССКОГО ГОЛОСА»*

# ИСТОРИЯ. УРОК ПЕРВЫЙ

История — лучший учитель, учитель авторитетный и строгий. Давайте же совершим экскурс в историю.

Страна Советов, преодолевая колоссальные трудности и совершая ошибки, все-таки шла по пути успешного строительства новой жизни. Старый мир, желая того или нет, вынужден был признать право на существование Советского государства и нормализовать с ним свои отношения. Соединенные Штаты Америки долгое время не замечали огромную державу, Советский Союз, игнорировали его на международной арене. «Русский голос» и его читатели, живущие в Америке, делают все, что только в их силах, для улучшения отношений между американским и советским народами. В русских рабочих организациях читаются лекции и доклады о Советском Союзе. Страницы газеты заполнены материалами, в которых настойчиво проводится одна идея — необходимость признания Америкой Советского Союза.

Июнь 1923 года. На первой полосе «Русский голос» огромными буквами сообщает: «Сенаторы организовали блок признания Советов». В состав его входят известные либералы, многие из них побывали в России или едут туда. Блок обещает быть сильным, информирует газета.

Август 1923 года. «Русский голос» полон оптимизма: сенатор Виллиам Кинг приехал в Россию. В беседе с корреспондентом «Правды» он заявил: «Я верю в гений русского народа. Я глубоко уважаю русскую литературу, которой зачитывался с детства. Убежден, что у России блестящее будущее. Вопрос о признании Советской России я еще не решил. Я приехал сюда для того, чтобы ознакомиться с положением на месте и найти ответ».

Октябрь 1923 года. На первой полосе «Русского голоса» групповой снимок, а над ним заголовок: «Американские сенаторы, вернувшиеся из России, рекомендуют признание Страны Советов». «Нет мира без России», — заявляет сенатор Бор. Он настойчиво требует признания Советского правительства и установления торговых связей с СССР. «Наш мир останется несчастным, пока такая страна, как Россия, будет игнорирована. Можно ли надеяться на мир в Европе, если России нет в семье народов?»

Все последующие годы, вплоть до 1933-го, когда будут установлены дипломатические отношения между Советским Союзом и США, для «Русского голоса» эта тема останется главной.

**Начало в № 10.**

Год 1933-й. Наши соотечественники в Америке ратуют за скорейшее признание СССР. Это тема докладов, лекций, митингов в рабочих клубах, это главная тема газетных публикаций. «Русский голос» заявляет: «Признание Советского Союза США является самым важным вопросом, который стоит перед правительством США. Решение его в интересах Америки является делом чести Америки. Признание СССР — долг американских крупных фирм, ведущих дела с СССР, долг перед специалистами, работающими там».

На имя президента США Франклина Рузвельта направляются многочисленные телеграммы с требованием оформить признание СССР.

По-прежнему неутомимую деятельность ведет сенатор Бор. В своих речах он заявляет: «Еще во время Вильсона, Гардинга и Кулиджа я рекомендовал США признать Советское правительство, и во все годы моих стараний в этой области я получал один и тот же отрицательный ответ. Советская Россия — единственное государство, опасаться которого нам не надо. Президент Рузвельт открыл путь к установлению дружеских отношений с правительством, за которым стоит 160 миллионов человек, готовых бороться за него. Довольно игнорировать народ, обладающий шестой частью территории земного шара».

Газета сообщает о том, что Русско-американский комитет, основанный с целью изучения возможностей советско-американских экономических связей и состоящий из видных общественных деятелей, ученых, деловых людей, высказывается в пользу признания СССР. Такой шаг приведет к урегулированию отношений между двумя странами.

Страна Советов готовится отметить 16-ю годовщину Великого Октября. В первых числах ноября 1933 года в Бронксе, Бруклине, во многих городах Америки проходят массовые митинги рабочих. Ораторы настойчиво требуют признания великой Советской страны.

«Русский голос» в каждом номере разъясняет читателям: установление дипломатических отношений между двумя великими державами — в интересах народов обеих стран. Однако вопреки здравому смыслу и вопреки действиям здравых умов, коих немало было в Америке, активно действовали силы, препятствующие сближению народов, налаживанию дружеских контактов между СССР и США.

«Признано всем мыслящим миром» — под таким заголовком газета публикует заметку А. Драгоманова: «15 лет отсутствуют дипломатические отношения между Вашингтоном и Москвой. Капиталистам не нравится само существование Советской власти — на то они и капиталисты. Они пытаются дискредитировать Советское правительство. Антисоветская пропаганда, развернутая на Западе, не рекомендует и другим странам вступать в переговоры с Москвой».

Но тем не менее здравый смысл упорно пробивал себе дорогу. Америку не могли не заинтересовать успехи советской экономики, науки, социальные преобразования. Америка стала прислушиваться к рассказам тех, кто побывал в Стране Советов. Немалую роль сыграл и величайший в истории капитализма экономический кризис, разразившийся в то время. Ухудшилось международное положение Америки, разошлись интересы милитаристов Японии и США. Достижения же Советского Союза были неоспоримыми.

«Признания ждут все! — заявляет «Русский голос». — Президент США Ф. Рузвельт готов признать Страну Советов».

В редакцию «Русского голоса» поступает большое количество писем, в которых выражается надежда на то, что в самое ближайшее время главный вопрос времени будет решен положительно.

«Советский Союз и Америка» — под таким заголовком «Русский голос» публикует письмо читателя И. Любарского. «Президент Рузвельт послал письменное приглашение Советскому правительству для переговоров о признании Страны Советов. Никогда мы, сознательные рабочие, не брали газету с такой радостью, как в настоящее время. Радостно читать, что глава советской делегации М. Литвинов выехал в США. Мы с нетерпением ждем его! Благодаря предстоящему заключению соглашения Америка получит крупные заказы, и это будет взаимовыгодно для обеих великих держав. Русская колония много работала и сделала все, что могла, для достижения долгожданного признания. Жаль только, что великий Ленин не дожил до этого события. Начинается новая страница в истории США и СССР».

8 ноября 1933 года. На первой полосе «Русского голоса» фото: народный комиссар иностранных дел СССР М. Литвинов в Америке. Тут же заявление Литвинова для печати: «Я хочу еще раз подчеркнуть всю искусственность отсутствия нормальных официальных отношений между СССР и США, несмотря на тот факт, что оба народа продолжают следить за прогрессом друг друга с симпатией и взаимным интересом. Это подтверждается поездками в СССР многочисленных представителей американской науки, техники и искусства, а также огромной американской литературой об СССР». М. Литвинов подчеркнул большое значение установления дипломатических отношений прежде всего для мирного сосуществования народов.

В Белом доме начались исторические переговоры. Их ведут нарком СССР М. Литвинов, с одной стороны, президент Ф. Рузвельт и статс-секретарь Голл — с другой. «Русский голос» выходит с передовой статьей «Международное значение переговоров в Вашингтоне», где говорится: «В настоящее время в Вашингтоне вершится судьба всего человечества. Там вырабатывается тот путь, по которому будет двигаться колесо истории. Значение переговоров признается всеми странами— это отмечает пресса Англии, Франции, Германии, Италии и других государств».

Бурлит, волнуется, торжествует русская, белорусская, украинская колонии Америки. В редакцию приходит огромное количество писем от читателей, приветствующих высокого посланца Страны Советов М. Литвинова. Среди журналистов, освещающих переговоры в Белом доме, представители «Русского голоса».

9 ноября 1933 года. Заголовок на первой п[illegible]е газеты: «Президент Рузве[illegible] интересуется «Русским голосом». Телеграмма, подписанная специальным корреспондентом Д. Крынкиным: «Я принял участие в конференции для прессы в Белом доме. Пос[illegible]онференции был лично [illegible]едставлен президенту Рузвельту. Президент сказал, что он знает «Русский голос», но, к сожалению, не может читать по-русски. Однако понимает русскую душу».

Через два дня «Русский голос» публикует текст еще одного исторического документа: «Представитель «Русского голоса» Д. Крынкин говорил с М. Литвиновым». «Вашингтон. Ваш специальный корреспондент беседовал с наркомом М. Литвиновым. Я задал вопрос относительно совещания в Белом доме. Литвинов со свойственной ему любезной и ободряющей улыбкой ответил, что об этом я узнаю очень скоро из коммюнике, которое будет опубликовано».

Наконец долгожданное событие свершилось! 18 ноября 1933 года вышел в свет «Русский голос», на первой странице которого крупным шрифтом набрано: «СССР ПРИЗНАН». И комментарий: «В четверг, в 11. 50 вечера, президент Рузвельт объявил о признании СССР.

В обращении к Литвинову президент США заявил: «Я надеюсь, что отношения, которые теперь установились между нашими странами, останутся нормальными и дружественными и что наши народы в будущем будут сотрудничать для взаимной пользы и для дела мира».

Газета публикует портреты Рузвельта, Литвинова, первого посла СССР в США Трояновского и посла США в Советском Союзе Буллита. Газетные страницы полны восторженных сообщений: «Трудящиеся всего мира приветствуют советско-американское сближение!»

Редакция «Русского голоса» направила приветственные телеграммы на имя М. Литвинова и Ф. Рузвельта.

«Президенту США Рузвельту. Вашингтон. Приветствуем ваше решение признать правительство СССР. Это открывает широкую перспективу для дружественных отношений народов США и СССР, процветания стран, с которыми тесно связана судьба выходцев из России в Америке».

«Наркому иностранных дел СССР М. Литвинову. Вашингтон. От имени русской трудовой колонии Америки выражаем восхищение достижениями мирной советской политики, блестяще проведенной вами при переговорах, и отмечаем великую радость в день признания СССР, которое является важнейшим международным фактором мира и преуспеяния».

И, наконец, еще одно любопытное признание. Оно принадлежит Анне-Луизе Стронг, американской журналистке, только что вернувшейся из Москвы: «Рузвельту принадлежит Нобелевская премия мира за его шаг, если не считать Литвинова, который первый заслуживает этой премии». Крупнейшие американские газеты опубликовали его на видном месте.

История— лучший учитель, учитель авторитетный и строгий. Никакие самые ученые теории и эмоциональные заклинания ее не опровергнут. Именно этим спустя годы занимались многие американские советологи и публицисты, пытаясь доказать, что Советскому Союзу и США не суждено найти общий язык. Но разве могут они опровергнуть историю? Вспомним вторую мировую войну, когда наши страны были союзниками в общей борьбе с гитлеровским фашизмом; вспомним историческую встречу на Эльбе. Вдумаемся в смысл того, что происходит в наших отношениях сегодня, и еще раз повторим пророческие слова сенатора Бора: «Нет мира без России».

**Галина ЕВДОКИМОВА.**

**(Продолжение следует).**

---

**ДИСКУССИОННАЯ ТРИБУНА**

# ГАЗЕТА БЕЗ ТРАДИЦИОННОГО ДЕВИЗА

С первого января газета «Вечерняя Казань», самая популярная в столице Татарии, начала выходить без традиционного девиза «Пролетарии всех стран, соединяйтесь!».

«Вечерняя Казань» — газета Казанского горкома КПСС и городского Совета народных депутатов. За 11 лет существования ее тираж вырос с 50 до 215 тысяч экземпляров, а редактор А. Гаврилов стал народным депутатом СССР, победив на выборах нескольких конкурентов.

Корреспондент АПН спросил у редактора: «Не упрекают ли вас в отходе от партийных позиций?»

— Я считаю, — говорит А. Гаврилов, — что наша газета остается на платформе партии. Но ее сотрудники решили, что необходимо отходить от старых догм. Лозунг «Пролетарии всех стран, соединяйтесь!», выдвинутый полтора века назад в Манифесте коммунистической партии Марксом и Энгельсом, выражал тогда идею мировой революции. Но время — не застывшая категория. Сегодня для победы перестройки необходима консолидация всех сил общества: крестьянства, интеллигенции, учащейся молодежи, пенсионеров, а не только рабочего класса. Тем более что вечерняя газета — специфичное издание, предназначенное для чтения после работы в кругу семьи.

К тому же слова девиза не входят в обязательную газетную атрибутику. Ни в одном регламентирующем выпуск газеты документе нет прямого указания именно на эти слова. На заседании редколлегии было предложено заменить девиз «Пролетарии всех стран, соединяйтесь!» другим, популярным сегодня «Вся власть Советам!». Но мы отказались от этой идеи. Рано или поздно вся власть перейдет в руки Советов как органов государственного и местного управления...

— Я думаю, что можно принять аргументы редактора, — говорит первый секретарь Казанского горкома КПСС Г. Зерцалов.— Меня удивило другое: свое решение редколлегия приняла келейно. Учредители газеты были поставлены перед фактом. Знаю, что и в коллективе редакции к этому решению неоднозначное отношение. Читатели считают, что инициатива убрать девиз исходила от горкома партии, но это не так. Правильно было бы обратиться к читателям с таким предложением и выслушать их мнение. И если бы решение о снятии девиза было принято, то оно было бы принято большинством голосов не членов редколлегии, а читателей газеты. Напомню, что слова «Пролетарии всех стран, соединяйтесь!» есть и в партийном билете каждого коммуниста. Решать судьбу этого лозунга должна не отдельная группа людей.

**Владимир ШЕВЧУК.**

(АПН).

*АКТУАЛЬНАЕ ІНТЭРВ'Ю*

# ЦІ СТАНЕ ЛЕНІНКА НАЦЫЯНАЛЬНАЙ БІБЛІЯТЭКАЙ

**ГУТАРКУ З ДЫРЭКТАРАМ ДЗЯРЖАЎНАЙ БІБЛІЯТЭКІ БССР ІМЯ У. І. ЛЕНІНА Аляксандрам МІХАЛЕНЕМ ВЯДЗЕ НАШ КАРЭСПАНДЭНТ Таццяна АНТОНАВА**

**— Шаноўны Аляксандр Гаўрылавіч, вас, здаецца, можна павіншаваць. Гавораць, быццам любімая мінчанамі Ленінка — так ласкава завуць дзяржаўную бібліятэку імя Леніна, — якая месціцца ў двух старых будынках, нарэшце, пераязджае...**

— На жаль, гэта толькі чуткі. З віншаваннямі прыйдзецца пачакаць. І, відаць, даволі доўга. Рэальная дата, калі наша бібліятэка атрымае новую прапіску і размесціцца ў прыгожым, спецыяльна спраектаваным для яе будынку, — 1997 год. Усе, хто ведае, у якім незайздросным, нават катастрафічным стане знаходзіцца Ленінка, будуць непрыемна здзіўлены і нават абураны. І я нічым не магу іх абнадзеіць.

Сёння бібліятэчная справа ў краіне ўвогуле ў заняпадзе. Бо ў нашым грамадстве было згублена разуменне значнасці бібліятэк як асновы культуры і галоўнага сродку забеспячэння доступу да інфармацыі і ведаў, як гістарычнай памяці чалавецтва. Галоўнае кнігасховішча Беларусі не ў лепшым стане, чым Дзяржаўная бібліятэка імя Леніна ў Маскве... Крыўдна казаць, але мы не толькі жывём па-дзедаўску, у цесначе ды цемначе, але і абслугоўваем чытачоў у лепшых патрыярхальных традыцыях — ніякай механізацыі і ўжо тым больш камп'ютэрызацыі. Надзею на перамены прынеслі новыя часы. У 1988 годзе была прынята ўрадавая пастанова аб паляпшэнні матэрыяльна-тэхнічнай базы нашай бібліятэкі. У 1989 спецыялісты пачалі работы па стварэнню аўтаматызаванай сістэмы абслугоўвання чытачоў.

Летась, дарэчы, быў праведзены конкурс на праект новага будынка Ленінкі. У ім удзельнічалі 5 інстытутаў, было прадстаўлена 7 праектаў. Пераможцам аказаўся арыгінальны праект групы маладых архітэктараў інстытута «Мінскпраект». З 1990 года па 1993 будзе распрацоўвацца праектная дакументацыя, а потым пачнецца будаўніцтва.

**— А як жа будзе жыць і дзейнічаць гэтыя сем гадоў Ленінка?**

— Наша бібліятэка мае больш за сем мільёнаў адзінак захоўвання. Гэта каштоўны скарб нацыі, бясцэнныя помнікі культуры і гісторыі народа. Але ўжо даўно няма дзе захоўваць іх. Частка была перавезена ў будынак былога касцёла ў Івянцы (цяпер касцёл вярнулі веруючым, а кнігі — нам), яшчэ частка захоўваецца ў падвале тэатра оперы і балета, і яшчэ — у падвальным памяшканні аўтамабільнага завода...

650 тысяч кніг з фондаў Ленінкі размешчаны ў падвальных памяшканнях. Там яны псуюцца, гінуць назаўсёды, знікаюць з ужытку. Гэта сапраўдная катастрофа нашай культуры... Духоўны Чарнобыль.

**— Летась у прэсе паведамлялася пра аварыю ў самой бібліятэцы, у выніку якой былі загублены каштоўныя экспанаты... Як гэта здарылася?**

— Будынак, у якім мы з вамі цяпер гутарым, быў узведзены ў 1934 годзе. З таго часу ў ім вяліся толькі нязначныя касметычныя рамонты. Уявіце, у якім стане ўсе яго камунікацыі... І я не магу даць гарантыі, што такая самая аварыя, як летась, не паўторыцца. Адбылося ж тады наступнае. У адным з памяшканняў кнігасховішча прыйшла ў непрыгоднасць труба. Вада заліла стэлажы, дзе знаходзіліся ноты і кнігі-малюткі. (Была сабрана даволі прыстойная калекцыя такіх выданняў, — і нашых, і замежных, якою мы ганарыліся). Ратавалі як маглі: прасамі і сушылкамі. Хаця некаторыя выданні і засталіся ў каталогах, але знешні выгляд іх сапсаваны канчаткова.

Ужо пасля аварыі кіраўніцтвам рэспублікі для захоўвання фондаў бібліятэкі былі выдзелены будынкі плошчай 1 200 квадратных метраў і 1 800 квадратных метраў. Міністэрствам культуры БССР сумесна з бібліятэкай актыўна вядзецца работа па рэканструкцыі і прыстасаванні іх для захоўвання кніг.

**— Аляксандр Гаўрылавіч, а для чаго ўвогуле бібліятэкі?**

— Інфармацыя і веды — гэта багацце краіны. Чалавецтву неабходны новыя ідэі. А для новых ідэй патрэбна свабода і магчымасць хуткага доступу да пісьмова зафіксаванай культуры ва ўсім яе аб'ёме. Бібліятэка павінна служыць не дзяржаве, а грамадству. Растлумачу думку. Узяць нядаўнюю нашу гісторыю, калі шматлікія спецхраны, пад сем замкоў трапляла літаратура, дзе выказваліся крытычныя думкі пра савецкі лад жыцця, разнастайныя эміграцкія выданні і г. д. Заканамерна, што ў яе фондах практычна адсутнічаюць цэлыя пласты таго, што цікавіла грамадства, — сучасная замежная літаратура па рэлігіі, рэлігійна-містычнай філасофіі, працы замежных саветолагаў, кнігі па бізнесу, маркетынгу, сексалогіі і г. д. Дзяржава ў гэтым выпадку строга прадпісвала сваім грамадзянам, што ім можна чытаць, а што нельга. Гэта метода, думаецца, у значнай ступені служыць абалваньванню людзей.

Бібліятэка павінна фіксаваць і захоўваць **усе** праявы культуры, грунтуючыся пры гэтым на прыярытэце агульначалавечых каштоўнасцей.

**— Праз некалькі гадоў, як вы сказалі, у нас адкрыецца новы будынак нацыянальнай бібліятэкі. Ці будзе гэта сапраўды сучасная бібліятэка — цэнтр культуры, дзе чалавек зможа задаволіць свае інтэлектуальныя і эстэтычныя запатрабаванні, адпачыць, паглядзець кінапраграму?.. Альбо новым будзе толькі будынак, яго інтэр'ер, а ўсё астатняе — па старому, па дзедаўскаму метаду?**

— Па-старому ўжо нельга. Мы і так надзвычай закасцянелі. Сёння ва ўсім свеце бібліятэкі, тым больш нацыянальныя — гэта асяродкі культуры, цэнтры, дзе наладжана не толькі кнігавыдача і пошук неабходнай інфармацыі, але збіраюцца для абмеркавання кніг, на сімпозіумы. Там звычайна нязмушаная атмасфера, ніякай казёншчыны. Усё прадумана да дробязей, каб чалавеку было зручна. Можна прыйсці з сям'ёй, з сябрамі, пасядзець у бары, нават згуляць у тэніс альбо паплаваць у басейне. Да паслуг чытача камп'ютэры, капіравальная тэхніка...

Усе гэтыя аспекты бібліятэчнай справы, я думаю, знойдуць сваё рэальнае ўвасабленне ў вобразе нашай новай бібліятэкі. У прыватнасці, у праекце будынка прадугледжаны і кіназала, і гасцёўня, кафейні, спортзала, нават асобныя чытальныя пакойчыкі, дзе змогуць працаваць вучоныя, людзі мастацтва (там будзе месца для адпачынку, размесцяцца музычныя інструменты). Нацыянальную бібліятэку змогуць наведваць інваліды. Прадугледжваюцца два шырокія ліфты, дарожкі для заезду чытачоў на калясках. Акрамя гэтага, улічваючы, што амаль усе супрацоўнікі бібліятэкі — жанчыны, да іх паслуг будзе цырульня з касметолагам, пакой псіхалагічнай разгрузкі, кафэ.

**— Наколькі я ведаю, у вялікія нацыянальныя бібліятэкі краін Захаду і ЗША ўваход для ўсіх чытачоў — свабодны. І ўсе паслугі — бясплатныя. У нашу ж Ленінку запішуць не кожнага. А навуковым абанементам увогуле карыстаецца абмежаваная колькасць асоб. Пры такіх умовах ці маюць усе роўныя правы на інфармацыю і доступ да яе?**

— Так. Я згодны з вамі, што сітуацыя сама па сабе ненармальная. Разам з дэмакратызацыяй савецкага грамадства многае мяняецца і ў культуры. Разнявольваецца свядомасць людзей. Са спецхранаў і архіваў выходзяць на свет божы тысячы некалі забароненых выданняў. Кожны цяпер сам мае магчымасць выбраць, што яму чытаць. Для грамадства таксама вельмі важна, каб **кожны** меў доступ да ўсяго багацця і разнастайнасці ведаў, думак, перажыванняў чалавецтва. Мяркую, што неўзабаве ў нашу нацыянальную бібліятэку таксама будзе свабодны ўваход для ўсіх. Адно мяне засмучае. І я не магу змаўчаць. На жаль, культура некаторых чытачоў, студэнтаў, навукоўцаў, адукаваных у прынцыпе людзей, настолькі яшчэ нізкая, што яны дазваляюць сабе вырываць цэлыя старонкі з бібліятэчных кніг, бязлітасна абыходзяцца нават з каштоўнымі выданнямі, выразаюць артыкулы з газет.

**— Кажуць, што чытанне — вялікая маральная праблема часу. Не сакрэт, што многія людзі, якія лічаць сябе інтэлігентамі, даволі рэдка чытаюць. Маўляў, шмат іншых спраў, ды і тэлебачанне, кіно, відэа ёсць... Ці адчувае Ленінка такую праблему?**

— Увогуле праблема існуе. Пра гэта я ведаю ад сваіх калег — бібліятэчных работнікаў у гарадах і пасёлках Беларусі. Яны нярэдка скардзяцца, што губляюць чытача. Гэта не дзіўна, бо цяпер кожны імкнецца мець дома сваю ўласную бібліятэку, тыя кнігі, якія яго цікавяць. Але гэта не датычыцца пакуль Ленінкі. Колькасць чытачоў у нас расце. Цяпер мы абслугоўваем 38,5 тысячы чалавек. Выдаём штогод больш за тры мільёны кніг. Гэта значна больш, чым у папярэднія гады. Праўда, у нас апошнім часам узрасла такая катэгорыя чытачоў, як студэнты. Маладое пакаленне чытае многа і вельмі разнастайную літаратуру. Вось гэта імкненне моладзі да ведаў, да інфармацыі мы стараемся задаволіць, прадастаўляем ім першакрыніцы і шматлікую дапаможную і вучэбную літаратуру. Думаю, што з дэмакратызацыяй і гуманізацыяй савецкага грамадства наша нацыянальная бібліятэка будзе не страчваць, а набываць новых і ўдзячных чытачоў.

**— Гаворачы пра Ленінку, вы часта скарыстоўваеце тэрмін «нацыянальная бібліятэка». Якая ідэя павінна ляжаць у аснове дзейнасці такой культурнай установы? Якая роля нацыянальнай бібліятэкі ў жыцці рэспублікі?**

— Зусім нядаўна ў «Литературной газете» друкаваўся артыкул «Блеск и нищета национальных библиотек». У ім якраз многа ўвагі ўдзяляецца становішчу нашых бібліятэк. У прыватнасці, аўтар піша: «Па стану нацыянальнай бібліятэкі, па тым, як яна камплектуецца, хто і з якой нагоды туды прыходзіць, якія кнігі патрабуе, па якасці і разнастайнасці каталогаў можна меркаваць пра інтэлект нацыі, пра шырыню яе інтарэсаў, узровень культуры, духоўнасці і нават узровень жыцця». Цалкам згодны з гэтай думкай.

Пра стан беларускай нацыянальнай бібліятэкі мы з вамі многа ўжо гаварылі, і паўтарацца няварта. На вялікі жаль, адыгралі сваю адмоўную ролю і аб'ектыўныя, і суб'ектыўныя фактары. Да суб'ектыўных я б аднёс тыя ідэалагічныя каноны, грунтуючыся на якіх наша дзяржава доўгія гады абмяркоўвала карыстанне чытачамі той ці іншай літаратуры. У выніку мы маем так многа «белых плям». А нацыянальная бібліятэка, на думку самай шырокай грамадскасці, — тое месца, дзе павінна быць сканцэнтравана не проста шмат «кніжных багаццяў», а ўсё, што гэты народ за сваю гісторыю стварыў, усё, што яго калі-небудзь цікавіла. Па-другое, у час Вялікай Айчыннай вайны наша нацыянальная бібліятэка была разрабавана фашыстамі і вывезена за мяжу. Хаця шмат што і вярнулася дамоў, але многае каштоўнае знікла.

Работнікамі культуры рэспублікі распрацоўваецца канцэпцыя нацыянальнай бібліятэкі. У яе аснову закладзена ідэя першачарговага камплектавання фондаў Ленінкі тымі першакрыніцамі, якія выдаюцца ў Беларусі, у СССР, за яе межамі.

Усё, што пішацца пра Беларусь у свеце, будзе ў нашых фондах. Таксама, як і выданні беларускіх эмігрантаў за мяжой. Пашыраючы межы нацыянальнай бібліятэкі, мяркуецца павялічыць фонд беларускага аддзела. Цяпер у ім каля 700 тысяч кніг, а будзе 1,5—2 мільёны выданняў. Менавіта гэты фонд, дзе шырока прадстаўлена нацыянальная культура ва ўсёй яе паўнаце і шматстайнасці, — аснова, фундамент нацыянальнай бібліятэкі.

**— А якія магчымасці мае Ленінка для таго, каб запоўніць «белыя плямы» ў сваіх фондах? Што яна мяркуе рабіць, каб паскорыць гэты працэс?**

— Перабудова значна паспрыяла наладжванню кантактаў па ўзаемаабмену кнігамі. У нас 160 партнёраў у 30 краінах свету. Дзесяць з'явіліся толькі ў самы апошні час. Гэта навуковае выдавецтва ГДР, рэдакцыя часопіса па філасофіі (Вялікабрытанія), «Бібліятэка» (Таронта), Інстытут мастацтваў у Чыкага, выдавецтва польскіх часопісаў у ЗША. Трэба сказаць, што за апошні год-два мы атрымліваем вельмі шмат беларускіх пласцінак і часопісаў з бібліятэкі кангрэса ЗША. Шчыра ўдзячныя сваім амерыканскім калегам за дапамогу.

Нацыянальная бібліятэка БССР прымае самы актыўны ўдзел у рэалізацыі праграмы «Вяртанне» Беларускага фонду культуры. Па гэтай праграме мяркуецца вярнуць на Радзіму шматлікія духоўныя багацці, якія трапілі за мяжу ў выніку самых розных абставін.

**— Кангрэс ЗША выдзяляе 268 мільёнаў долараў у год на ўтрыманне сваёй нацыянальнай бібліятэкі. Цікава, які бюджэт Ленінкі?**

— Хаця сродкі, выдзяляемыя ўрадам Беларускай рэспублікі на сваю нацыянальную бібліятэку, і растуць з кожным годам, але яны яўна недастатковыя. Сёлетняя дзяржаўная датацыя складае 1 мільён 230 тысяч рублёў. Акрамя гэтых грошай, Міністэрства культуры выдзяляе невялікія сумы на правядзенне рамонту (30-40 тысяч), а таксама на набыццё абсталявання, мэблі (40-60 тысяч). Вось і ўсе нашы рэсурсы. Мізэрнасць такая, як я разумею, не ад сквапнасці, але больш ад беднасці.

**— А ці можа бібліятэка сама зарабляць грошы на жыццё ў дадатак да такога беднага дзяржаўнага пайка?**

— З 1990 года Ленінка перайшла на новыя формы гаспадарання. І нам, адпаведна, вельмі сур'ёзна давялося задумацца пра тое, дзе ўзяць грошы. Мы вырашылі развіваць платныя паслугі. Хаця б тое ж ксеракапіраванне. Штогод яно дае нам прыбытак ад 4 да 5 тысяч рублёў. Таксама пераплятаем, рэстаўрыруем кнігі, робім музычныя запісы з фонду бібліятэкі, складаем бібліяграфічныя спіскі. На гэтым зарабляем 10-12 тысяч у год.

У далейшым мяркуем весці разнастайную культурна-асветную работу. Можа быць удасца наладзіць выдавецкую дзейнасць на аснове нашых фондаў. Усё гэта, зразумела, не ад добрага жыцця. Але сядзець і чакаць склаўшы рукі нельга, трэба рабіць усё магчымае, каб працэс адраджэння нашай культуры, і ў тым ліку бібліятэк, набіраў сілу.

**— Статус нашай бібліятэкі — «нацыянальная» — дастаткова высокі, але сапраўднае яе становішча гаворыць хутчэй аб правінцыяльнасці, заштатнасці існавання. Калі вы расказвалі пра тое, якой неўзабаве будзе Ленінка, дзе ўсё: і будынак, і інтэр'ер, і абслугоўванне чытачоў — ледзь не па апошніх міжнародных стандартах, то мне гэта, прызнаюся шчыра, здалося ружовай марай, утопіяй. Таму хочацца папытацца: «Ці стане Ленінка сапраўды нацыянальнай бібліятэкай рэспублікі?»**

— Вельмі хацелася б, каб мы нарэшце зрабілі гэты якасны скачок. Менавіта скачок, бо за такі кароткі перыяд — 7 гадоў — неабходна ў корані перабудаваць бібліятэчную справу. У прынцыпе не бачу нічога нерэальнага ў той карціне, якую я намаляваў. Пры ўмове: усё гэта магчыма ажыццявіць, калі пытанні культуры зоймуць у дзяржаўнай палітыцы не апошняе месца, а адно з першых.

